

# Зялёнка

*Незалежнае маладзёвае выданьне* № 6 кастрычнік 2000

## Чытайце ў нумары

## МАЛАДЫ ФРОНТ



**Малады Фронт -** найбуйнейшая апазыцыйная арганізацыя беларускае моладзі, якая выступае за незалежную моцную эўрапейскую Беларусь, за нацыянальнае адраджэньне, і гуртуе ў сваіх шэрагах школьную, студэнцкую й працоўную моладзь.

**(кантакты ў Рэчыцы: вул. Леніна 68, тэл 2-63-36, Зьміцер)**

*Матар'ял чытайце на бачынах 4-5*

Налепкі менавіта з гэткай выяваю нехта лепіць па горадзе. Што гэта азначае, незразумела, аднак вядома адно: гэта вельмі не падабаецца міліцыянтам. Цікава, што крымінальнага яны ў гэтай налепцы бачаць? Твар вусататага, на палову лысага мужыка перакрэслены чырвонай рыскай. Мабыць, малюнак выклікае ў прадстаўнікоў улады нездаровыя асацыяцыі? А ў вас якія?




  

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-ЧОРНЫ ГУМАР

*Бачына 6*

## Беларуская Музычная Альтэрнатыва - наша музыка!

*Бачына 7*

## Увага!

**Рэдакцыя "Зялёнкі" працягвае прымаць ад вас абвесткі, пажаданьні ды віншаваньні.**

## Акцыя

## За справядлівыя выбары!



*Бачына 3*

# ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ!

Я з жахам назіраю ўсё тое, што адбываецца. Вакол усё зьмяняецца зусім ня ў лепшы бок! Не, ня буду гаварыць аб палітыцы ці эканоміцы – гутарка пойдзе аб праблеме ўзаемадачыненьняў паміж людзьмі.

Чаму ў нас так многа крывадушнасьці? Чаму я не магу сказаць іншаму, што праўда не ягоная? Чаму мне не даецца самае элемэнтарнае: свабоды выказваць свае думкі й пачуцьці? Чаму я камусьці ДОЛЖЕН і ОБЯЗАН?!

А вось і просты адказ: ніхто апроч мяне ня можа загадаць, што мне рабіць, а што не. Ніхто апроч мяне не забароніць мне думаць аб чым я хачу, і, урэшце, ніхто не прымусіць мяне згубіць сваю індывідуальнасьць, якая і адрозьнівае мяне ад іншых людзей.

Чаму ўсе кажуць аб асобе, аб свабодзе, а ў выніку ўсё гэта сыходзіць да ідэяў, якім даўно пара на сьметнік! Давайце ж быць самі сабой! Давайце ж будзем крыху нахабнымі й разьняволенымі. Давайце пачувацца ня быдлам, не скатом (часьцей за ўсё гэтым словам вызначаюць людзей, няўпэўненых у сабе, забітых нейкай сыстэмай), а рэальна адчуваць сябе разумным, прыгожым, патрэбным і г.д. Ніхто апроч нас ня зможа зрабіць гэтага. Адпіхнем свае комплексы ды стэрэатыпы, насаджанныя ізноў жа ня намі – мы ж жывем!

Нікога ня бойся! Нікога й ніколі! Адчуйце ўсё багацьце АСОБЫ. Гэта ўсё, што нам трэба!

Давайце проста засьмяемся ды скажам сабе: мы жывем!

Мы жывем тут і цяпер, і гэта нашае (і толькі нашае!) права рабіць усё, што мы жадаем і хочам. Я кажу вам: забараніце забараняць! Пачніце гэта зараз. Будзьма ж спантаннымі ў сваіх думках ды ўчынках. Ня бойцеся адказаць на грубасьць, ня бойцеся нічога. Проста скажыце таму, хто вам гэта робіць: "Я іншы, мне ўсё роўна! Я ёсьць я." І той, хто грубы ды жорсткі, адчуе сваю слабасьць ды зразумее, што праўда не ягоная. "Я жадаю быць сабой" – гаворыце вы ўсе. А я вам кажу, што вы ўжо ёсьць, вы ўжо сталіся сабой. Ня бойцеся быць сьмешнымі й незразумелымі.

Гвалт – гэта зло, а зло ёсьць слабасьць. Свабода – гэта моц, а там дзе свабода, няма месца гвалту!

Будзьце сабой, такімі, як вы ёсьць! Тут і цяпер!

*Апостал овъ,*
*будучы выкладчык*

# Міліцыянту

Ня бі мяне па галаве
І не заломвай мне руку,
Бо перш за ўсё я чалавек,
Абараніць сябе магу!
Правы свае ты ведай добра,
Але ж не забывайся на правы мае,
І не кідайся на мяне, як кобра –
Уладу далі не для гэтага табе!
Калі ўварвесься ты ў маю хаціну,
Пасьведчаньне сваё ў руцэ трымай.
Запомні: я ня быдла, не скаціна!
Хаця б сумленьне і павагу май!
Зьвярні свой погляд у бяздоньне
І ўзгадай 30-ыя гады,
Калі да чалавека проста ноччу
НКУСа прылятал "вараны".
Я – чалавек таталітарнага рэжыму,
Але я ўсё роўна чалавек!
І я не безгаловая скаціна –
Ня бі мяне па галаве!

Pater Antyluka

# "Наша міліцыя нас сьцеражэ"

Вучуся я ў Рэчыцкім ПТВ-178 або ў "хмызьні". Наступны артыкул не аб тым, якая ў наш час дрэнная моладзь, што псуе аўтобусы й непаважліва паводзіць сябе зь людзьмі сталага веку, а пра элемэнтарную баязьлівасьць і здрадлівасьць з боку тых, хто павінны сачыць за парадкам і абараняць спакой грамадзянаў.

Зрэшты, адсядзеўшы як мае быць прыстойнаму студэнту ўсе сем урокаў, я сеў у доўгачаканую "тройку", каб хутчэй вярнуцца дамоў. Праехаўшы колькі прыпынкаў, я стаўся сьведкам гэткай карціны: ў аўтобус, што пад'ехаў да чарговага прыпынку ўвайшоў даволі някепскага складу цела мужчына, які адразу прыцягнуў да сябе ўвагу. У салёне аўтобуса ён запаліў цыгарэту, прагнаў зь месца нейкага перапужанага падлетка, сеў і працягваў паліць, не зважаючы на абураных пасажыраў. Магчыма, гэтага артыкула й не было б, калі б я не абярнуўся й не паглядзеў назад. Ззаду, быццам не заўважаючы таго, што адбывалася сядзеў наш "доблестный страж порядка" і моўчкі паглядаў у вакно. Тым часам, мужык дапаліў, кінуў недакурак на падлогу аўтобуса й выйшаў.

Гэты выпадак яшчэ болей пераканаў мяне ў тым, што не заўжды міліцыя выконвае свае абавязкі, што нездарма аўтарытэт міліцыянтаў у народзе становіцца ўсё ніжэйшым.

The HORSE

# За справядлівыя выбары!

8 кастрычніка, у нядзелю, у нашым горадзе праходзіў мітынг пад назовам "За справядлівыя выбары", наладжаны Каардынацыйнай Радай дэмакратычных сілаў г.Рэчыцы. Месца яго правядзеньня, як заўсёды, вызначалі "чэсные" гарадзкія ўлады. Мітынг плянаваўся ў цэнтры гораду насупраць помніку Э.Полацкай, але ўлады мітынгоўшчыкаў адправілі ў г.зв. "сквер аўганцаў", дзе, як вядома, звычайна выгульваюць сабак. Чым абумоўленая такая пастанова? Хутчэй, самай верагоднай матывацыяй чыноўнікаў магло стацца "прадухіленьне парушэньняў грамадзкага парадку". Але ж дзе справядлівасьць?! Узгадаем славутыя дні "празьніка гораду" (1,2,3 верасьня), калі па нашых вуліцах бадзяліся п'яныя натоўпы, пакідаючы пасьля сябе горы пустых пляшак, паперы ды інш. (хаця сьметніц, здаецца, хапае).

Асабіста мне за адну гадзіну давялося быць сьведкам трох п'яных разборак (і ўсё гэта ў самым цэнтры гораду) – вось тут бы й спатрэбілася міліцыя! Але "дабрамужных" міліцыянтаў побач не было.




Асноўнай мэтаю мітынгу было данесьці да грамадзянаў, чаму няварта йсьці на выбары. На мітынгу гучалі прамовы сябраў дэмакратычных партыяў Рэчыцы Зьміцера Дзенісюка, Ігара Забірана, Лявона Рабцэвіча. Гэтаксама выступалі вядомыя палітычныя й грамадзкія дзеячы зь Менску Аляксей Януневіч і Станіслаў Багданкевіч.

***Падчас акцыі складвалася ўражаньне, што мы выгульваем далматынцаў.***

Актыўны ўдзел у правядзеньні мітынгу брала наша рэчыцкая моладзь - анархісты, Малады Фронт і проста файныя людзі. Яны прыйшлі з нацыянальнымі сьцягамі ды плякатамі. Вылучыўся сваёй прамовай анархіст Апостал.

Колькасьць удзельнікаў – блізу 300 чалавек. Усім жадаючым раздаваліся новыя нумары "Рэчыцкага агляду" й "Зялёнкі".

Усё было б добра, але ўжо калі пасьля заканчэньня мерапрыемства ўдзельнікі пачалі разыходзіцца й калёна моладзі, ўзьняўшы ўгару НАШЫЯ сьцягі, рушыла ў бок сш. № 4, быў затрыманы малады анархіст Апостал (які й прамаўляў на мітынгу). Да яго падыйшлі людзі ў форме супрацоўнікаў міліцыі. Не адрэкамэндаваўшыся й не паказаўшы адпаведных пасьведчаньняў (**паводле закону яны мусілі гэтак зрабіць!**), яны запатрабавалі ў Апостала дакумэнты, якіх у яго з сабой не было (як кожны нармалёвы чалавек, ён пакідае іх дома, каб не згубіць). Затым хлопец быў дастаўлены ў пастарунак.

Аналягічныя акцыі пратэсту супраць фальшывых выбараў праходзілі 8 кастрычніка ў **Горадні, Слоніме, Берасьці, Баранавічах, Пінску, Жодзіна, Барысаве, Слуцку, Салігорску, Віцебску, Наваполацку, Воршы, Магілеве, Бабруйску, Гомлі, Мазыры, Сьветлагорску, Жлобіне.**

*З.Лютаўскі*

**Рэдакцыя "Зялёнкі" выказвае ўдзячнасьць усім хлопцам і дзяўчатам, каторыя ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы й правядзеньні мітынгу, асабліва Апосталу, Голіку, Насьце, Каралеве Марынго, Фанату, Вінт Віке й Вольке, Храпу, Івану Г., Яўгену, Бобрыку, Блэку, Каню & Co, Дзятлу (адмысловая падзяка), Зубатаму, БНФ ды многім іншым. Яшчэ раз ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!**

## МЫ ПЕРАМОЖАМ !!!



# МАЛАДЫ

*Малады Фронт ЗА:*
- маштабовыя й глыбінныя рэформы ў эканамічным, палітычным і духовым жыцьці краіны;
- вольны рынак і свабоду прадпрымальніцтва;
- сэрвісны, інфармацыйны й навукова-тэхналягічны ўздым;
- стварэньне лепшай у сьвеце беларускай адукацыі;
- спэцыялізаванае навучаньне ў школе, конкурсы й тэсты замест іспытаў у студэнтаў;
- найшырэйшыя праграмы эўрапейскага абмену;
- прафэсійную нацыянальную гвардыю;
- апэратыўную й прэстыжную паліцыю;
- свабоду слова, сумленьня й друку.

## Дзейнасьць Маладога Фронту

Малады Фронт узьнік у нетрах БНФ увесну 1996 г. на хвалі маладзёвага супраціву, які ўзьняўся у абарону незалежнасьці Беларусі. Дзесяткі тысячаў маладых, што выйшлі на вуліцы Менску, Горадні, Магілева 24 сакавіка, 2 і 26 красавіка, сталі асновай для арганізаванага маладафронтаўскага руху. Увосень '96 маладафронтаўцы пачалі ладзіць беларускія дыскатэкі, шоў-выступы па школах, пікеты й рызыкоўныя начныя акцыі.

Вясна '97 г. распачалася для МФ шматтысячным маршам "Беларусь – у Эўропу!", падчас якога ў амбасады заможных краінаў былі перададзеныя пэтыцыі з заклікамі да Захаду. Знакамітыя акцыі '97 г. "Горад – наш!", хвалі графіці і мітынговыя жарсьці ўжо сталі легендамі беларускага адраджэньня напрыканцы XX ст.

У верасьні 1997 г. прайшоў устаноўчы Сойм Маладога Фронту. Аддзелы й рады МФ былі створаныя ў 39 гарадох Беларусі. Арганізацыя разгарнула шырокую культурна-асьветніцкую дзейнасьць: рок-канцэрты, дыскатэкі, конкурсы, сацыялягічныя апытаньні, кампутаровыя праэкты. Разам з тым ішло вулічнае змаганьне за палітвязьняў, дзесяткі тысячаў сабраных подпісаў і спартовыя акцыі.

У лютым-сакавіку '98 г. паралельна зь зімовай алімпіядай у Нагана МФ правёў сваю алімпіяду на вуліцах Менску й Горадні – найбуйнейшую ў гісторыі Беларусі спартова-палітычную акцыю.




У 1998-1999 гг. МФ заснаваў шэраг сатэлітных арганізацыяў, якія пачалі распрацоўваць асобныя сфэры маладзёвай актыўнасьці. II Сойм МФ, што прайшоў у шоў-стылі, з удзелам больш як 400 дэлегатаў, засьведчыў масавы посьпех найбуйнейшай апазыцыйнай арганізацыі моладзі. Гэта падцьвердзіла і далейшыя акцыі на вуліцах і стадыёнах, імпрэзы ў актавых залях і студыях – ува ўсёй Беларусі.

Урэшце, на III Сойме, што адбыўся 1 ліпеня 2000 г., з прыняцьцем праграмы "Малады Фронт пераменаў", арганізацыя была пераўтвораная ў **Н**ацыянальны **Р**ух **М**олдзі.

Малады Фронт увёў у слоўнікі сучаснае беларускае палітыкі новыя выразы й лёзунгі – "Ды-джэі Адраджэньня" і "Шоў Беларушчыны", "Горад – наш!" і "Лятучы пікет", "Акцыя любові" і "Алімпіяда МФ", "Нацыянальны Рух Моладзі" і "Беларусь – гэта сьвятое!". Яркія і відовішчныя фірмовыя маладафронтаўскія акцыі й вынаходніцтвы апошніх гадоў можна сьмела разьмяшчаць у падручніках па PR. А больш таго, менавіта МФ стаў адлюстраваньнем глыбінных духовых пераўтварэньняў грамадства і засяродзіў усеагульную ўвагу на хрысьціянскай сутнасьці нацыянальнага руху.

Малады Фронт – новае пакаленьне адраджэнскага руху й будучыня краіны.

Ужо сёньня дзесяткі маладафронтаўцаў працуюць журналістамі ў незалежных выданьнях, на радыё й TV, сотні ў грамадзкіх ініцыятывах і NGO; навучаюцца на сэмінарах і трэнінгах – па ўсёй краіне і за мяжой (больш за 30 чалавек толькі ў Эўропе). Сярод актывістаў МФ – вундэркінды й пераможцы рэспубліканскіх вучнёвых алімпіядаў, маладыя настаўнікі й кандыдаты навук, паліглёты й таленавітыя творцы.

## Ідэя Маладога Фронту

Сёньня Малады Фронт – адна з самых яркіх і моцных зьяваў нацыянальнага руху ў Беларусі.

Дзякуючы разгалінаванасьці структураў, шырокай падтрымцы ў маладзёвым асяродзьдзі й грунтоўнай базе БНФ Малады Фронт стаўся эпіцэнтрам сучасных маладзёвых працэсаў, у якім адлюстроўваюцца ўзроставыя й сьветаглядныя зьмены грамадства.

У 1996-2000 гг. Малады Фронт прайшоў заканамерны эвалюцыйны

# ФРОНТ

шлях – ад стыхійнага выхаду на масавыя маніфэстацыі, праз вулічны радыкалізм, палітычнае шоў і сьцёб, праз культурніцтва і грамадзкае пашырэньне, раскручваньне інфармацыйных тэхналёгіяў – да цяперашняга ідэалягічнага сталеньня й шматвобразнасьці дзеяньня ў імкненьні трымаць вядучую ролю сярод нацыянальнае моладзі. За 4 гады МФ ператварыўся ў найбуйнейшы маладзёвы рух, у якім спалучаюцца і палітычныя актыўнасьці, і культурніцкія акцыі, і вулічныя маніфэстацыі, і інфармацыйныя кампаніі, які аб'ядноўвае многія маладзёвыя плыні, дзесяткі грамадзкіх ініцыятываў на грунце нацыянальнай ідэі, з народнай, правацэнтрыскай канцэпцыяй дэмакратычнага грамадзтва ды незалежнае эўрапейскае дзяржавы.




Самае перашае, што зробіць МФ, калі прыйдзе да ўлады зьменіць фальшывую чырвона-зялёную сымболіку на нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоню. Гэта будзе найлепшы сыгнал для ўсіх і кожнага, знак рэформаў і адраджэньня па-над дахамі гарадоў і вёсак, арыентыр для ўсяго грамадзтва й замежжа – ён пакажа, што з дыктатурай і каляніяльнай эпохай тут скончана раз і назаўжды. Аўтаматычна касуюцца ўсе "саюзы", драконаўскія дэкрэты, прапіскі й абавязковы прызыў, аднаўляецца дзеяньне Канстытуцыі. Мы ўсталюем нармалёвую мяжу з Расеяй – і шырока распахнем дзьверы на Захад. Мы гатовыя разгарнуць беспрэцэдэнтную, маштабовую кампанію сапраўдных рэформаў, асноўнай рухавай сілай якіх стане моладзь.

У пэрспэктыве рэформаў МФ ставіць на сьветаглядныя й духовыя перамены. Менавіта яны даюць сілы на ўсеагульнае ператварэньне нацыям, грамадзтвам і цывілізацыям. Менавіта зь іх пачынаюцца палітычныя й эканамічныя, сацыяльныя й культуровыя дасягненьні. **Нацыянальнае адраджэньне,** вяртаньне да духовых вытокаў дае людзям веру ў саміх сябе, у свае сілы, у сваю краіну. Гэта - любоў да свайго бліжняга, да кожнага суайчыньніка, любоў, здольная аб'яднаць увесь народ і узвысіць яго да нацыі.

Малады Фронт бачыць нашую краіну ня проста сярэднеэўрапейскай. Нам патрэбная Вялікая Беларусь. МФ – за Беларусь як стратэгічны мост паміж Эўропай і Ўсходам, навуковы, тэхналягічны, сэрвісны й інфармацыйны цэнтар сусьветнага ўзроўню, такі, як Бэльгія, Сынгапур ці Каліфорнія; найбуйнейшы фінансавы рынак між Азіяй і Эўропай. За Беларусь – агмень культуры, духовае сэрца Ўсходняй Эўропы, прастору сьвятла, веры й любові ў месцы сустрэчы хрысьціянскіх канфэсіяў.

***Малады Фронт СУПРАЦЬ:***

- прарасейскае, антыэўрапейскае, правінцыйнае палітыкі сёньняшняй улады;
- жалезабэтоннай сыстэмы адукацыі, папяровых прафсаюзаў, бэ-пэ-эс-эмаў, разьмеркаваньняў, прапісак ды іншай саўковасьці ў школах і ВНУ;
- алькагалізму й наркаманіі;
- нікому не патрэбнага вялізнага паўгалоднага войска, дзе забіваюць і калечаць;
- парушэння правоў чалавека, дыктатуры й таталітарызму;

*Малады Фронт выступае ня супраць Расеі ці Лукашэнкі, а за Беларусь!*

## ЛІДЭРЫ МАЛАДОГА ФРОНТУ



**Натальля МАКОВІК**
1978 г.н.
Менск
Намесьніца старшыні МФ, лідэр «Асацыяцыі Маладых Прадпрымальнікаў», эканамістка



**Яўген СКОЧКА**
1976 г.н.
Гомель -Менск
Намесьнік старшыні МФ. Адзін са стваральнікаў МФ, журналіст



**Аляксей ЧАРНЯЕЎ**
1978 г.н.
Менск
Намесьнік старшыні МФ, вэб-майстар, праграміст



**Аляксей ШЭІН**
1976 г.н.
Горадня-Менск
Намесьнік старшыні МФ
Філёляг, журналіст



**Павал СЕВЯРЫНЕЦ**
1976 г.н.
Віцебск-Менск
Старшыня МФ, лідэр «Маладога Адраджэньня», інжынэр-геоляг, мастак, журналіст.

# Анталёгія "бел-чырвона-ЧОРНАГА" гумару



Маленькі хлапчук са стрэльбай гуляў,

Зь дзіцячай цікавасьцю яе разглядаў.

На курок раптам пальчык націснуў міжволі –

Мазгі ўзьляцелі да самае столі!



Дзеўчынка ў полі знайшла ананас

(то быў маскаваны варожы фугас),

Памыла ручкі, села паесьці –

Сківіцу зьнесла мэтраў на дзьвесьце!







Снайпэр у лесе базуку знайшоў –

Верталёт прэзыдэнта ў Менск не прыйшоў...



Маленькі хлапчук халадзец гатаваў –

На падлозе бязногі быцька стагнаў .







Хлопчык у лесе гранату знайшоў,

У печку схаваў дый у школу пайшоў.

Бабуля на ноч у грубку дроў падкідала...

На яе пахаваньні ўся вёска гуляла!

Маляваў THE KOTLET



Мастацкая апрацоўка ФАНАТА

# Беларуская
## Музычная Альтэрнатыва – наша музыка!

БМА group – музычная суполка Таварыства Беларускай Мовы. Створаная ў 1996 г. як маладзёвая арганізацыя, асноўная мэта дзейнасьці якой – падтрымка нацыянальнай рок-культуры і маладзёжных ініцыятываў у галіне рок-культуры, распаўсюджваньне дэмакратычных ідэяў праз рок-музыку.

За час свайго існаваньня БМА group правяла канцэрты ў менскіх ВНУ (БДУ, Пэдагагічны ўнівэрсытэт) з удзелам гуртоў Новае Неба й NRM, арганізавала фэст "РОК за НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ", выдала звыш 10-ці аўдыёкасэтаў беларускіх выканаўцаў (Кардон, Мясцовы час, Мроя, Даньчык, Ален, А.Мельнікаў і г.д.); праводзіць штогод разам зь "Беларускай маладзёжнай" фэст "Рок-Купальле".

БМА group распачала выданьне зборнікаў тэкстаў з акордамі вядомых гуртоў. Ужо пабачылі сьвет зборнікі гуртоў Уліс і Камэлот. У бліжэйшы час плянуецца выданьне аналягічных зборнікаў гуртоў NRM, Новае Неба, вядомага барда Андруся Мельнікава.

У 1999-2000 г. БМА group рэалізоўвае праэкт "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: слухай сваё!" У межах праэкту былі выдадзеныя кампакт-дыск, аўдыё і відэа касэта з кампазыцыямі гуртоў, што прымалі ўдзел на працягу некалькіх год у канцэртах-акцыях "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ".

Кіраўнік суполкі – Віталь Супрановіч (нарадзіўся 14.08.79 г.), скончыў Вышэйшую тэхнічную вучэльню, студэнт Беларускага Ўнівэрсытэту Культуры. З 1996 г. актыўна займаецца арганізацыяй канцэртаў у Менску й гарадох Беларусі, а таксама выданьнем аўдыёкасэтаў. Незалежны музычны журналіст.

БМА group зацікаўленая ў супрацоўніцтве з арганізацыямі, студыямі гуказапісу, мас-мэдыя, як зь Беларусі, так і зь іншых краінаў (правядзеньне сумесных фэстываляў, выданьне CD, распаўсюджваньне й абмен аўдыё прадукцыі, арганізацыя сэмінараў, канфэрэнцыяў і інш.).

Зацікаўленых ў супрацоўніцтве з БМА group просім зьвяртацца па наступнай адрэсе:

220085 Менск, а/с 5,
тэл. (017) 2490888 Супрановіч Віталь,
тэл/факс (017) 2845012
E-mail: aja@cscsc.lingvo.minsk.by; http://fly.to/bmagroup
Беларуская музыка ў Internet:
NRM: http://fly.to/nrm
ULIS: http://fly.to/ulis
KRIWI: http://fly.to/kriwi
Narodny Albom: http://fly.to/nalbom
ZNICH: members. xoom. com/Znich

Калі табе даспадобы нефармальныя стасункі, калі ты не абрэзаны пад агульны трафарэт, калі табе абрыдла расейская папса й хочацца сапраўды ЖЫВОЙ музыкі –
**СЛУХАЙ СВАЁ!**
**Патрабуй беларускае!!!**

*Клюб гістарычнага фэхтаваньня й рэканструкцыі "Тэра" запрашае ўсіх ахвочых на свае бясплатныя заняткі:*
*панядзелак, серада – 19:00*
*субота – 18:00*
*Узроставых абмежаваньняў няма*

## "Беларуская маладзёжная" – неблагая газэта!

**"Беларуская маладзёжная"** паважае Ваш розум і Ваш выбар. Мы ніколі ня вучым Вас жыць, але падказваем, як жыць годна.

**"Беларуская маладзёжная"** інфармуе пра справы, пляны і меркаваньні тых, пра каго "забылася" дзяржаўная прэса – нармальных людзей, ініцыятыўных асобаў, крытычнага да цяперашніх парадкаў народу.

**"Беларуская маладзёжная"** цэніць трапнае слова і не друкуе нудоты.

**"Беларуская маладзёжная"** – гэта "САМвыдат" і "Армейская курылка", "Біржа працы" і "Клюб людзей", "Права на слова" і "Незабытая вёска". Нашу газэту на 50% ствараюць чытачы, і ў любой з існуючых рубрык знойдзецца месца Вашаму меркаваньню.

Будзь разам з намі! Мы працуем на будучыню – далучайся !

**Падпісны індэкс 63309**

# Абвесткі

Ну скажыце, ну чыво вам ешчо не хватает, а?!!

*Аляксандар Рыгоравіч*

*** *** ***

Віншуем спадара Храпа зь семнаццацігодзьдзем! Жадаем посьпехаў у вучобе, асабістым жыцьці ды ўва ўласнае творчасьці. Хай у недалёкай будучыні за tatoo ў тваім выкананьні выстройваюцца вялізныя чэргі. Працуй, удасканальвайся ды працягвай радаваць людзей упрыгожваньнямі на іхных целах.

*Сябры*



## *Показкі* Показкі *Показкі* Показкі *Показкі*

Жонка гаворыць мужу:
- Любы, заўтра 25 год, як мы з табою ажаніліся. Ці не закалоць з гэтае нагоды парсючка?
- Ты што! А парсючок у чым вінаваты?

*** *** ***

Хлапец цалуе дзеўчыну й нясе яе на канапу. Яна яму сарамліва кажа:
- Мабыць, цяпер ня трэба?.. Лепш пасьля вясельля.
- Не. Лепш цяпер, бо калі пабярэсься шлюбам, муж можа "застукаць".

*** *** ***

Вярнуўшыся з паляваньня, муж кажа жонцы:
- Дарагая, можаш радавацца – цэлы месяц ня будзеш мяса ў краме купляць!
- Ты забіў лася? – з захапленьнем пытаецца яна.
- Ды не, прапіў увесь заробак.

*** *** ***

Вовачка пытаецца:
- Дзядзя доктар, а шасьцігадовая дзеўчынка здольная зацяжарыць?
- Не.
- Шантажыстка!!!

*** *** ***

- Мама, наш пеўнічак цяжка хворы.
- Чаму ты так думаеш, дачушка?
- Нашыя курачкі увесь дзень яго на сьпінках носяць...

*** *** ***

*(восеньская показка ад Дзятла)*

Стаіць мужык ля крамы ды лье сабе на галаву кефір з бутэлькі. Другі мужык ідзе й пытаецца:
- А што гэта ты робіш?
- У шахматы гуляю!
- Давай разам гуляць, я таксама хачу.

Стаяць яны ўжо ўдвох, льюць на сябе кефір. Трэці мужык падыходзіць і гаворыць:
- А я ведаю, што вы робіце...Вы ў шахматы гуляеце.
- Як ты здагадаўся?!
- А там за крамай веласіпед стаіць!

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Алена ТТК
Анэт ГЕНАДЗЕЎНА
Дзядзька ПАСТАР
Зьміцер ЛЮТАЎСКІ
Алесь ЦЮЦЮНІК

Рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць пададзенае інфармацыі і ксэракопіі асобнікаў, можа не падзяляць меркаваньняў аўтараў.

**Адрэса для допісаў:**
247500 г. Рэчыца, вул. Леніна 68

Зялёнка
Незалежнае маладзёвае выданьне

№6 кастрычнік 2000

*Выдаецца накладам* **299** *ас.*

ВЫКАЗВАЕМ ВЯЛІКУЮ ПАДЗЯКУ АБ'ЯДНАНЬНЮ «ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ» ЗА ДАПАМОГУ Ў СТВАРЭНЬНІ ГАЗЭТЫ